Opłatę pocztową uiszczono ryczałtem.

Цана асобнага нумару 20 грош.

# БЕЛАРУСКАЯ ДОЛЯ

Выходзіць тры разы ў тыдзень.

Адрэс рэдакцыі і адміністрацыі: **Вільня, Віленская вул. 12, п. 6.** (Wileńska 12, m. 6).
Рэдакцыя адчынена ад **12** да **2** г. штодня апрача сьвяточных дзён. Адміністрацыя ад **9** да **3** г.

Падпіска на **адзін месяц** з даставкай да хаты **2 зл.** Для заграніцы ўдвая даражэй.

**Перамена адрэса 30 грошы.**

Няпрынятыя ў друк рукапісы назад не вяртаюцца. Аплата надрукованага залежыць ад Рэдакцыі.
Цана абвестак: перад тэкстам 25 грош., сярод тэксту 20 грош. і на 4 стр. 15 гр., за радок пэтыту ў 1 шп

№ 21. Вільня, Субота, 28-га сакавіка 1925 г. Год I.

## „Бяз выкупу!“

З кожным днём робіцца ўсё ясьней і ясьней, што зямельная рэформа, прынятая, *як закон*, яшчэ польскім Устаноўчым Соймам, сяньня аканчальна пахаронена.

Замест зямельнае рэформы сучасны Сойм і Урад даюць „Крэсам“ *асаднікаў*, а запраўдным польскім землям—*дабравольную парцэляцыю* дворных абшараў звыш вядомае скольнасьці самымі панамі.

Увесь радыкалізм зямельняе рэформы ў яе пачаткавым кшталце — выветрыўся з яе. Але ня выветрыўся ён з галоў і душ народных масаў Польшчы.

Дагэтуль ідэя радыкальнае разьвязкі зямельнага пытаньня—*падзелу ўсяе зямлі між мала і беззямельным сялянствам бяз выкупу* — знаходзіла найбольш яркае выяўленьне толькі на беларускіх і ўкраінскіх „Крэсах“. Тут яна жыве глыбока ў псыхіцы народнай, тут яна сталася асноўнай складовай часткай запраўды нацыянальных беларускіх і ўкраінскіх прадстаўніцтваў. Тое, што ў часе выбарнае кампаніі ў 1922 годзе сулілі народу беларускі і ўкраінскі выбарныя камітэты,—гэта выбраныя за паслоў у Сойм іх кандыдаты стараюцца правясьці ў жыцьцё.

Інакш сталася з тымі польскімі радыкальнымі партыямі, якія салодкімі славамі і вельмі шчодрымі пасуламі зьбіралі сялянскія галасы і ў нас на „Крэсах“, дый і ў самай Польшчы. Прайшоўшы ў Сойм, дэпутаты іх моўчкі сядзелі ажно дагэтуль, а цяпер, калі ўрад падаў праект „зьдзейсьненьня“ зямельнае рэформы, таксама моўчкі пазваляюць падмяніць гэтую рэформу нейкай асаблівай парцэляцыяй дворных зямель, якая дасьць зямлю запраўды адным толькі вясковым багатырам — так званым „кулакам“, а і паноў не „пакрыўдзіць“, пакідаючы ў іх руках яшчэ даволі зямлі дзеля панаваньня над вясковай беднатой.

Вось-жа проці гэтага, ня гледзячы на маўчаньне польскіх левых партыяў у Сойме, востра запратэставаў *сам польскі селянін*. Нарушаючы тую „гармонію“, якая ў зямельным пытаньні пануе на „адзіным нацыянальным фронце“ польскіх соймавых клюбаў, — польскі селянін далучыў свой моцны голас да голасу беларускага і ўкраінскага:

— „Уся зямля—для народу—бяз ніякага выкупу!“

Так сказалі польскія сяляне на зьезьдзе, скліканым партыяй „Wyzwolenie“ ў Варшаве.

Ня дзіва, што пасьля гэткай заявы іх партыйная „інтэлігенцыя“ ўцякае з „Wyzwolenia“. Уцякаюць „лібэральныя“ абшарнікі, уцякаюць асаднікі. Гэтыя паны йшлі з сваім народам, пакуль той паслухмянна плёўся *за імі*. Але з таго мамэнту, як выяўленая на зьезьдзе воля радыкальных сялянскіх масаў пайшла *проці іхніх інтарэсаў*, уся гэтая панская інтэлігенцыя адцуралася ад свайго-ж сялянства.

Ведама, раней ці пазьней гэтага трэба было спадзявацца. Але ўса польская ўнутраная палітыка, скіраваная ў першы чарод на барацьбу з нацыянальнымі меншасьцямі, вяла гэтую барацьбу ў тым перакананьні, што „сваё“ польскае сялянства будзе пакорна йсьці за сваімі нацыянальна настроенымі павадырамі, бяз розьніцы партыяў.

Цяпер да клапотаў з нацыянальнымі меншасьцямі ў Польшчы далучаецца новы клопат: клопат з „сваім сялянствам. Кліч, кінуты вызваленскімі сялянамі, лішне ўжо занадта заманчівы, прывабны, каб астаўся бяз вотклiку ў польскіх вёсках. І можна спадзявацца, што падобна таму, як валіцца і распадаецца цяпер партыя „Wyzwolenie“, так пачне валіцца і „адзіны нацыянальны фронт“ у самым польскім грамадзянстве.

## Сьвяткаваньне Скарынінскага Юбілею у Вільні.

Згодна з абвешчаньнем, 25 сакавіка ў нашай старой Вільні, у актавай салі Беларускае Гімназіі, адбылося наладжанае Беларускім Навуковым Таварыствам сьвяткаваньне 400-лецьця беларускага друку.

У салі, прыбранай малюнкамі старой Вільні, зробленымі інж. Камароўскім, сабраліся запрошаныя прадстаўнікі, як мяйсцовага беларускага, так і літоўскага, польскага, расейскага і жыдоўскага грамадзянства, а такжа прыехаўшыя спэцыяльна на нашае сьвята ўкраінскія дэпутаты—грамадзяне Хруцкі і Казіцкі. Побач з дэлегатамі культурна-асьветных установаў пералічаных нацыянальнасьцей, зварачалі на сябе ўвагу архіяпіскап Хвядос, прэзыдэнт места Баньковскі, адвакат Врублевскі, дэлегат ад віленскага ўнівэрсыт., жыдоўскае гміны, беларускія дэпутаты і сэнатары, прадстаўнікі работніцкіх арганізацыяў, літэратары і журналісты.

Характэрна, што прадстаўніцтва было **толькі грамадзянства:** з **запрошаных** прадстаўнікоў польскае ўлады не зьявіўся ніхто, затое **няпрошаных** было даволі многа, прычым прадстаўнікі камісара ўраду патрэбавалі даць ім месца на сцэне, каб лепей чуць і запісаць прамовы...

Акадэмію адчыніў уступным словам старшыня Бел. Нав. Т-ва, А. Луцкевіч, які ў першы чарод даў слова дзеля прывітаньня госьцям літоўскае, польскае, украінскае і жыдоўскае нацыянальнасьці.

Першы прамовіў д-р Альсэйка — ад імя Літоўскага Навуковага Т-ва. Прамоўца гаварыў **па-беларуску**, што было прывітана сабранымі гарачымі воплескамі.

Далей прамаўлялі: украінец дэп. Казіцкі, (паўкраіньску, прадстаўнік клясовага прафэсіянальнага саюзу друкарскіх работнікаў-хрысьціян грам. Былінскі (папольску), прадстаўнік жыдоўскіх культурных установаў (Цэнтр. Камітэту Асьветы, Асьветнае Арганізацыі для правінцыі і інш.) рэд. Рэйзін (пажыдоўску), пробашч касьцёла сьв. Мікалая кс. Чыбірас (палітоўску), дэпутат — вызваленец Гэльман (папольску) і ўрэшце вядомы адвакат і грамадзкі дзеяч Тадэуш Врублеўскі (папольску), які першы зварот свой да сабраных паўтарыў ува ўсіх краёвых мовах.

Перапоўненая да краёў саля горача вітала прамоўца.

Пасьля дакладу старшыні аб атрыманых прывітаньнях, якія ніжэй друкуем, прачытаў рэфэрат на тэму **„Век Скарыны“** дэп. праф. Б. Тарашкевіч, які падыйшоў да свайго заданьня вельмі сумленна і даў яркі абраз жыцьця нашага грамадзянства ў XVI ст.

Намечаны рэфэрат дэп. Адама Станкевіча на тэму „Жыцьцё і праца Францішка Скарыны“, з увагі на позны час і выхад якраз у гэты дзень брашуры гэтага аўтара на гэту-ж тэму, быў зьняты з парадку дня.

Закрываючы сход, старшыня высказаў падзяку ўшанаваўшым сьвяткаваньне сваей прысутнасьцяй госьцям, адзначыўшы, што ў справах чыстае культуры істнуе той грунт, на якім могуць разам зыйсьціся палякі, літвіны, украінцы, расейцы і жыды.

У часе акадэміі былі выстаўлены ў асобнай вітрыне друкі: Фіоля (Кракаў—1491 г.), (Скарыны Прага—1517 г.) і вучняў Скарыны Пётры Мсьціслаўца і Івана Фёдарава (Масква—1564 г.)

Сход скончыўся каля 11 гадз.

## Прывітаньні.

### Ад Літоўскага Навуковага Т-ва:

Да Беларускага Навукова Т-ва.

Ня маючы магчымасьці з прычыны недамаганьня асабіста прыняць учасьце ў акадэміі на чэсьць слаўнага і вечнае памяці дастойнага д-ра Францішка Скарыны, які 400 гадоў назад працаваў дзеля шырэньня сьвятла і навукі ў нашым Вялікім Княэьстве Літоўскім,—шлю землякам яго, сяньняшнім беларусам і іх Навуковаму Т-ву, мае і Літоўскага Навуковага Т-ва **найлепшае, найсардэчнейшае пажаданьне.**

**Д-р мэд. І. Бассановіч,**
Старшыня Літ. Навук. Т-ва.

### Ад Украінскага Нацыянальнага Музэю:

Высокапаважнаму Навуковаму Т-ву
ў Вільні.

У 400-лецьце беларускага друку ў сэрцы культурна-нацыянальнага жыцьця Беларусі—прадаўжацелям вялікае працы несьмяротнага дзеяча беларускае літэтатуры, доктара Францішка Скарыны з Полацку,—Управа Нацыянальнага Музэю ў Львове шлець сардэчнае прывітаньне з пажаданьнем найвялікшага расцьвету беларускае кніжкі.

Няхай у найбліжэйшае 500-лецьце беларускае Біблії і ў найбяднейшай хаціне беларуса будзе неабходнаю часткаю жыцьця беларуская кніжка, а найвялікшыя сусьветныя кніжкі каб не маглі абыйсьціся без запраўды багатага аддзелу беларускае літэратуры і навукі, як выявіцелек агульна-людзкіх ідэй брацтва і няўпыннага поступу людзкога духа.

Памяць аб вялікім Скарыне і аб цяжкай працы яго для Беларусі няхай аб'яднае ўсіх работнікаў духа ў супольным змаганьні за лепшую будучыню—перамогу залатога сонца праўды над крамешнаю цемраю няпраўды.

З братнім прыветам

**Іларыон Сьвенціцкій.**

### Ад украінскага дэпутата Войтюка:

Вітаю Навуковае Таварыства з сьвятам чатырохсотных угодкаў заснаваньня Скарынай—сынам Беларусі — першае друкарні ў Вільні, залогам адраджэньня і культурнага расцьвету Беларускага Народу. **Пасол Войтюк.**

### Ад украінскага дэпутата П. Васыльчука:

Дзень памяці Скарыны, вялікага сына Беларускага Народу, усею душою сьвяткую з вамі. Хай пасеў вялікага друкара Беларусі ўзыходзе ўсё буйней, расцьвет прыдзе найхутчэй.

**Пасол Павло Васыльчук.**

### Ад Пасольскага Клюбу „Niezależnej Partji Chłopskiej“:

Ня маючы магчымасьці асабістага ўчасьця, вяжамся з вамі ўрачыстым глыбокім пачуцьцём

вялікага сьвята беларускай культуры і шчырым пажаданьнем, каб пашырыла яно барацьбу братоў беларусаў за культурнае адраджэньне і палітычнае і грамадзкае вызваленьне.

**Бальлін, Галавач, Шапель, Шакун, Воевудзкі.**

### Ад партыі П. П. С.:

З прычыны ўрачыстасьці ў памяць Скарыны перасылаем пажаданьне памыснага разьвіцьця беларускага руху.

Ад імя П. П. С.:

**Земенцкі, Пужак, Плавскі.**

### Ад дэпутата з Жыдоўскага Клюбу д-ра Выгодзкага:

Віншую з нацыянальным сьвятам, жычу найвялікшага разьвіцьця і расцьвету Беларускага Народу. **Д-р Выгодзкі.**

### Ад д-ра Ц. Шабада:

Лідэр жыдоўскае дэмакратыі ў Вільні, д-р Шабад, ня маючы магчымасьці — з прычыны выезду—прыбыць асабіста на акадэмію—прыслаў на рукі старшыні Б. Н. Т-ва пісьмо з выясьненьнем прычыны сваей адсутнасьці і пажаданьнем расцьвету беларускай культуры і беларускай ідэі.

### Ад амэрыканскае місіі мэтадыстаў:

Шаноўныя Зграмаджаныя!

Шкадую вельмі, што не магу быць прысутным на Вашым Сабраньні сёньняшнім, но духам злучаюся з Вамі пад час, калі прыпамінаеце сабе тых вялікіх вучоных—бацькоў Вашага Народу!

400 гадоў таму назад Беларускі Народ перажываў вялікі і ўрачысты дзень: гэта было выданьне вялікага дзела—першай Бібліі, пераложанай Фр. Скарынай на беларускі язык.

Сёньняшні абход ёсьць ясным довадам, што стараньні Вашых продкаў не асталіся бяз сьледу, бо дзеці тых вялікіх вучоных з таго часу стануць да працы, каб даканаць распачатае дзела сваіх бацькоў!

Ваенная завіруха аставіла Вас у благім матэрыяльным палажэньні, но мы сільна верым, што мы сёньня маем, пры цярплівасьці і натужанай волі, магчымасьць забудаваць вялікі гмах беларускай культуры на магутных і трывалых асновах,—бо на сільнай волі цэлага народу!

Мы, скромныя прадстаўнікі Вялікага Касьцёла Мэтадыстаў, каторы также зрабіў аграмадныя заданьні ў эвангелічнай працы найперш у Англіі, а пасьля ў Злучаных Штатах Паўночнай Амэрыкі, разьдзяляем Вашую шляхотную радасьць па поваду гэтага сьвята беларускай культуры і злучаемся з Вамі ў пэўнасьці сьветлай будучыны для Вашых культурных інстытуцый, школ, цэркваў і касьцёлаў, становлючыся да працы з усімі Беларусамі добрай волі, каб сьвятло навукі, асабістая свабода і глыбокая мудрасьць, што знаходзіцца ў сьвятым эвангельлі, сталіся падвалінамі Вашай культуры!

Сьвятое Пісаньне мы можам і сёньня чытаць, але па поваду языковых перамен новы пераклад вельмі патрэбы. Каб гэты пекны пераклад чатырох эвангельляў, які ўжо зроблены, стаўся ведамым кожнаму дзіцяці беларускага народу, каб можна было сказаць:

„Слова Тваё ёсьць факелам — паходняй ног маіх і сьвятлом сьцежкі маёй!“

Хай Бог благаславіць Вам у гэтай ураджайнай працы!

**Эдмунд Чэмбэрс,**
Супэрінтандэнт Віленскага Вокругу.

### Ад Старшыні Рады Б. Н. Р.:

Незалежніцкі Беларускі Цэнтр у Празе горача вітае старую беларускую сталіцу Вільню ў сёмы год абвяшчэньня незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі і 400-летняга юбілею Скарынінскага беларускага друку. Разьдзяліць гэтыя сьвяты—ня ў нашай сіле. Мы адчуваем гэта свабодна, Вы—ў душы, але нашы сэрцы б'юцца аднальковa. **П. Крэчэўскі.**

### Ад Студэнцкага Гуртка Незалежнасьці ў Празе:

Вітаем грамадзянства з днём 400-ых угодкаў закладзін друку Скарынай і з угодкамі абвяшчэньня незалежнасьці Беларусі.

**Студэнцкі Гурток Незалежнасьці.**

### Ад Беларускае Калёніі ў Літве:

Сардэчна вітаем акадэмію з нацыянальным сьвятам. Ліхія абставіны не даюць прыехаць асабіста. Верым у лепшую будучыну, пакладзём сілы для Краю, славы Беларусі і яе культуры. Вялікаму сыну Скарыне слава!

**Цьвікевіч, Галавінскі, Янавюк, Вальковіч, Калёнія ў Літве.**

### Ад беларускіх дзеячоў у Латвіі.

Прывітаньні прыслалі вядомыя беларускія дзеячы, працуючыя ў Латвіі: Ів. Краскоўскі, Пігулеўскі, П. Мядзёлка.

1) У вялікі дзень 400-га юбілею Беларускае Культуры, яе слаўнага старадаўнага Рэнэсансу і сьветлае памяці векапомнага вяшчуна нашага нацыянальнага Адраджэньня, д-ра Францішка Скарыны,—з глухога кутка, куды закінула мяне гістарычная доля, вітаю родны Народ Беларускі з яго вялікім сьвятам.

Шчыра дзякуючы за запрошаньне, я, на вялікі жаль, па незалежным ад мяне абставінам не магу прыняць учасьце ў урачыстай акадэміі, але душою і думкамі — я з Вамі, добра памятаючы, што „вераю, еднаньнем ласкі і згодаю паспалітае добрае памнажана бывае“. Хай жа гэтая прамяністая ідэя Скарыны — ідэя дружнага служэньня „дабру паспалітаму“ на карысьць „сваей братіі“, яркім полымем запаліўшыся ў душах пачынальнікаў сучаснага адраджэнскага руху, будзе і надалей тэй пуцяводнай зоркай, якая давядзе Беларусь да волі і шчасьця. **Ів. Краскоўскі.**

Дзьвінск.

2) Шчыра вітаю сход Навуковага Таварыства з урачыстым днём 400 гадоў істнаваньня беларускага друку. **Пігулеўскі.**

3) Вітаю з вялікім днём. Хай жыве Беларускі Народ! **Паўлінка.**

Прывітаньні атрыманы также ад цэлага раду беларускіх дзеячоў у Краю, якія ня мелі магчымасьці прыехаць на сьвяткаваньне Скарынінскага юбілею.

---

# Важнейшыя здарэньні.

## У Польшчы.

### Напад на станцыю Ляхавічы.

З Навагрудку паведамляюць, што 23-га красавіка ў 9 гадз. вечара дывэрсыйная банда з 30—40 чалавек напала на станцыю Ляхавічы (Баранав. пав.). Дывэрсанты прыехалі на станцыю на падводах. У Ляхавічах яны падзяліліся на два атрады.

Адзін з іх напаў на паліцэйскі пастарунак, паліцыянтаў абезаружылі, забраўшы і ўсё быўшае там аружжа. Каманданта пастарунку моцна пабілі.

Другі атрад адначасна напаў на станцыю чыгункі, стэрарызаваў быўшых там урадоўцаў і забраў з касы 1.461 злотых.

Уся работа трывала ня больш 15 мінут, пасьля чаго нападаўшыя адыйшлі. Напрамак адыходу не ўстаноўлены з прычыны цемры.

Зараз-жа была з'арганізавана пагоня, зложаная з паліцыі з 2 рот войска.

### Напад бандытаў.

„Виленское Утро“ наказуе:

19-га сакавіка ў 4-х вярстах ад Глыбокага 5 бандытаў з вінтоўкамі напала на сяло Ганьцы, (Гэрмановіцкае вол., Дзісьн. пав.), у якім абрабавалі некалькіх жыхароў.

Цікава, што камандант пастарунка ў Гэрмановічах не паведаміў уладаў аб гэтым нападзе.

Проці „дыскрэтнага“ каманданта пачата дазнаньне.

### Запярэчаньне.

ПАТ катэгарычна пярэчыць чуткам англійскай і амэрыканскай прэсы аб мабілізацыі 40 тысячнай польскай арміі дзеля захвату Гданска.

### Замест „Міністэрства да спраў нацыянальных меншасьцяў“.

„Паразумеўчая камісія“, зложаная з некалькіх меншасьцяў, якая мела апрацаваць статут і кампэтэнцыю новаўтворанага больш асабіста для п. Тугутта, чым для „Крэсаў“, „Крэсавага Камітэту“, скончыла сваю працу, і праект камісіі мае быць разгледжаны Радай Міністраў.

Гэткім чынам, мае быць утворана, як пішуць газэты, асобная сэкцыя (аддзел) пры палітычным камітэце Рады Міністраў—нешта кшталтам „міністэрства для меншасьцяў“—з п. Тугуттам на чале.

### Выдача Вечаркевіча і Багіньскага радаваму ўраду.

Асуджаныя судом на кару сьмерці за ўчасьце ў узрыве варшаўскай цытадэлі (крэпасьці) і іншыя рэчы афіцэры польскай арміі Вечаркевіч і Багіньскі былі, як ведама, памілаваны п. Прэзыдэнтам у дзень яго імянін. І вось, пасьля перагавораў з Масквой, польскі ўрад, як паведамляюць газэты, пастанавіў выдаць абодвух замахоўцаў радаваму ўраду.

Абодва яны ўжо выехалі з Варшавы праз Вільню на радавую граніцу. Польская прэса з гэтае прычыны граміць урад. Спадзяюцца інтэрпэляцыі ў Сойме.

### Недарэчная тайнасьць суда.

„Robotnik“ адзначае ўсю недарэчнасьць пастановы суда ў Перамышлі зачыніць дзьверы на працэсе камуністычнага дэпутата Ланьцуцкага. Запраўды-ж, п. Ланьцуцкаму закідаецца толькі яго „праступная“ прамова і больш нічога. Дык якія падставы дзеля тайнасьці працэсу? Апрача таго, на працэс дапушчаны... сам п. Ланьцуцкі, які будзе сам даваць падробныя інфармацыі ў камуністычныя газэты ўсяго сьвету, але, зразумела, у камуністычным асьвятленьні... Вось адзіны рэзультат „тайнасьці суда“...

**Суд Ланьцуцкага апраўдаў.**

### Расклад „Wyzwolenia“.

Працэс раскладу тэй „сацыяльна - палітычнай эмульсіі*)“, якая завецца „Wyzwoleniem“, ідзе далей.

За час працы ў Сойме—спрытна ўзбаўтаная на выбарах мешаніна панскага жыру з сялянскай вадой пачала адстаівацца, і абедзьве жыжкі рознага сацыяльнага паходжаньня ўсё болш разьдзяляліся на асобныя і ўзаемна варожыя па сваім інтарэсам і зьместу слаі... Найярчэйшым прыкладам гэтых „адстояў“ зьявіліся: зьнізу—выхад беларускай сялянскай групы Баліна, з сярэдка—групы п. Ваявудзкага, а зьверху самага галавы парыі—п. Тугутта, які з лона „радыкальнай сялянскай партыі пераскочыў адразу да „асобнага габірэту — у урадзе братоў Грабскіх... І вось — пасьля скандальнага зьезду—пасыпаліся ізноў „адстаўкі“ і заявы аб выхадзе з клюбу цэлага раду „павадыроў“ партыі.

„Пасол-абшарнік“, як піша „Dz. Wil.“, Касьцялковскі—з „тлустых“ вярхоў эмульсіі—выйшаў з клюбу затым, што на зьезьдзе была прынята рэзалюцыя аб адабраньні зямлі бяз выкупу...

Цяпер цэлы рад сэнатараў—Дабруцкі, Гашыньскі, Выслоух — падалі заяву гэткага-ж зьместу... Группа „Тугуттаўскіх інтэлігэнтаў“ мае зусім адмежавацца ад „хлопскай“ вады...

А „дыскусіі“ ў лоне клюбу і партыі ўсё йдуць далей...

Польская лявіцца дробіцца да самазабойства...

## Заграніцай.

### Да нямецкай прапазіцыі.

У Лёндане ідзе напружаная праца над правядзеньнем у жыцьцё нямецкіх гарантыяў міру. Францускі пасол у Лёндане павёз у Парыж новыя прапазіцыі Балдвіна і Чэмбэрлена ў справе нямецкіх пасулаў. Немцы прапануюць цяпер 2 асобныя умовы: адну аб гарантаваньні заходніх граніц, другую—усходніх. У справе забясьпечаньня ўсходніх граніц Нямецкі ўрад падчырківае, што ня мае ніякіх прэтэнсіяў ні да Чэхаславакіі, ні да Аўстрыі, а мае—толькі да Польшчы...

Гэтым лоўкім ходам Немцы хочуць паказаць, што толькі Польшча павінна лічыцца перашкодай на шляху да ўмацаваньня міру на ўсходзе Эўропы...

### Англія—Польшча—Нямеччына.

Француская прэса сцьвярджае, што англійскі ўрад, ня гледзячы на ветлівыя заявы і размовы свайго прадстаўніка з польскім міністрам Скшыньскім, зусім не адрокся ад думкі знайсьці шляхі і срэдзтвы, каб скланіц Польшчу — да палюбоўнага паразуменьня ў справе зьмены яе заходніх граніц.

### Навакол умовы аб бясьпечнасьці.

Францускі пасол у Лёндане паведаміў свой урад аб становішчы англійскага габінэту ў справе дагавору аб гарантыях міру.

Чэмбэрлен быццам лічыць, што Нямеччына мае права пачаць дыскусію ў справе перагляду граніц, праведзеных Трактатам і пазьнейшымі пастановамі Антанты.

Англія лічыць пажаданым, каб да васеньняй сэсіі Лігі Народаў былі распрацаваны спосабы забясьпечаньня граніцаў Польшчы, у інтэрэсах якой—пачаць перагаворы з Нямеччынай бо гэтым можна было-б ухіліць шмат канфліктаў на будучыню.

### Ллойд-Джордж аб Польшчы і Нямеччыне.

У венскай газэце зьмешчаны артыкул Ллойд-Джорджа аб умове бясьпечнасьці, у якой адстаўны англійскі прэм'ер бароніць добрую волю Нямеччыны, якая настрашана ўзрастаючай захватнасьцяй і бязьмежнай амбіцыяй Польшчы. Нядаўна Польшча захапіла яшчэ 3 нямецкія вёскі... Польшча маніцца захапіць Гданск „па віленскаму способу“,—а Ліга Народаў пакуль — што толькі шукае акуляраў, каб ляпей разглядзець, што робіцца навакол яе. Час падумаць аб тым, каб памагчы Нямеччыне проці несправядлівасьці...

### Гданскія скрынкі ў Гданскім Трыбунале.

Справа спорных польскіх паштовых скрынак у Гданску будзе разьбіраццa ў Міжнародавым Трыбунале ў Гаазе 14-га красавіка.

### Новы Прэзыдыум III Інтэрнацыяналу.

У Прэзыдыум Выканаўчага Камітэту III Інтэрнацыяналу выбраны тры сябры ад СССР—Зіноўеў, Сталін і Бухарын, 2 немцы, 2 амэрыканцы, 1 ірландзец, 1 італьянец, 2 чэхі, 1 англіец, 1 індус, 1 прадстаўнік балканскіх дзяржаў, 2 прадстаўнікі скандынаўскіх краёў.

### Амэрыканскі сэнатар едзе ў СССР.

Вядомы і вельмі ўплывовы сэнатар Бора, у сувязі з прынцыповай пастановай прэзыдэнта Амэрыкі прызнаць СССР, едзе асабіста ў Расею, каб на мейсцы пазнаёміцца з бытам і ладам краю і пачаць перагаворы ў справе ўзнаўленьня нармальных адносінаў між абодвума краямі.

### Звальненьне Чычэрына.

Чэшская прэса атрымала вестку з Масквы аб тым, што на мейсца Чычэрына камісарам заграцічных спраў назначаны Літвінаў. Гэтая зьмена разглядаецца,

---

*) Эмульсіяй завецца мешаніна нерасчыняючыхся адзін у адным плынаў, напрыклад алею з вадой; добра узбалтаны плын прымае белы колер.

як перамога больш радыкальнага напрамку сярод ураду СССР, для якога дыпляматыя Чычэрына выдаецца залішне ўступчывай.

### Эвакуацыя Сахаліна.

Японскі ўрад пачаў эвакуацыю расейскай паловы вострава Сахаліна, аддаючы ўладу расейскім урадоўцам.

### Хто будзе нямецкім прэзыдэнтам?

У дапаўненьне да нашага агляду шансаў розных кандыдатаў на прэзыдэнцкіх выбарах — цікава падаць аблічэньні аднэй нямецкай гэзэты.

Паводле яе, Яррэс можа разьлічаць на 10 мільёнаў галасоў, Браўн—на 8 міл., Маркс — на $4^1/_2$ міл., Гэльнах—на 2 міл., камуністы на $2^1/_2$ міл., Людэндорф—на 800—900 тысячаў.

Гэтыя лічбы пацьвярджаюць нашыя прадбачаньні.

Рашучую роль пры акончальным галасаваньні адыграюць, як відаць з гэтай табліцы, сярэднія групы.

### Прамова Яррэса.

Кандыдат памяркоўных правых Яррэс сказаў у Брэслаўлі прамову, у якой закрануў справу польска-нямецкіх граніц.

Яррэс сказаў, што нямецкі народ перакананы, што аддааны Польшчы Горны Сьленск вернецца да Нямеччыны. Што датычыць Гданскага калідору, дык гэта грубы гвалт над тым прынцыпам самаазначэньня народаў, за які быццам вялася вайна саюзьнікамі і на які так часта пазываецца Польшча.

Аратар высказвае здаволеньне з прычыны таго, што публічная апінія нават у краёх, варожых да Нямеччыны, скора і рашуча зьмяняецца на карысьць Нямеччыны, сучаснае тэрыторыяльнае палажэньне якой усюды пачынаюць прызнаваць немагчымым і недарэчным.

### Папраўка французскага агенцтва.

Агенцтва Гаваса папраўляе паданыя няпраўдзівыя лічбы рашучага галасаваньня ў парляманце аб даверы ўраду—пасьля адказу Эрыо на інтэрпэляцыю ў справе адозвы кардыналаў і архіяпіскапаў.

Даверые ўраду выражана 320 галасамі проці 185.

Рэзалюцыя парляманту пахваляе рашучыя меры ўраду ў справе захаваньня закона аб аддзяленьні царквы ад гаспадарства, падчырківаючы пяршынства сьвецкай дзяржаўнай улады ў краю, і кляйміць адозву кардыналаў і япіскапаў, як нягодную спробу закліку да гвалтаў і разрухаў у сучасную цяжкую для краю хвіліну фінансавых і міжнародавых небясьпекаў.

### Барацьба з касьцёлам у Францыі.

У Сэнаце пачаўся разгляд бюджэту. Спадзяюцца вельмі гарачай барацьбы з Соймам і ўрадам—перад усім у сувязі з іх барацьбой з каталіцкім касьцёлам. Большасьць сэнатараў — проці скасаваньня пасольства пры Ватыкане.

### Ваенны бюджэт Англіі.

Міністар скарбу заявіў ў парляманце, што ваенныя расходы Англіі — на армію і флёт (—марской і паветраны) аблічаны на 1925 г. у суме 117 мільёнаў фунтаў стэрлінгаў (каля 1.100 міл. залатых рублёў).

### Правадыр латвійскіх работнікаў—старшынёй Сойму.

Старшынёй Латвійскага Сойму — на мейсца назначанага паслом у Лёндан Вэстманіса—выбраны правадыр латвійскіх работнікаў, сацыяліст пасол Кальнінш.

Як ведама, толькі што работніцкі клюб быў у рэзкай апазіцыі да ўраду і цярпер ад яго цяжкія рэпрэсіі.—Нядаўна былі зачынены работніцкія клюбы. А цяпер пасьля ўрадовага крызісу і зьмены габінэту прадстаўнік работнікаў нават увайшоў у склад новага ўраду, а другі выбраны цяпер за старшыню Сойму.

### Адозва македонскіх незалежнікаў.

Новавыбраны камітэт македонскіх незалежнікаў выдаў адозву да ўсяго культурнага сьвету, дамагаючыся ад дзяржаў—сяброў Лігі Народаў утварэньня незалежнай Македоніі, ці, прынамся, пакуль што аўтаномнай правінцыі.

Як ведама, Македонія, якая населена пераважна баўгарамі, уся аддана „вэрсальцамі“ пад панаваньне лютым ворагам баўгараў—сэрбам... Можна сабе прадставіць, як „салодка“ жывецца македонскім баўгарам на гэтых усходніх „Крэсах“ Югаславіі.

### Абвінінцельны акт проці Радіча.

Радічу пададзены абвініцельны акт, які закідае яму ня толькі дзяржаўную здраду, далучэньне сваей партыі да сялянскага інтэрнацыяналу ў Маскве, раскладаючую прапаганду і агітацыю сярод арміі, але і...—абразу каралеўскага вялічаства і зносіны з македонскімі паўстанцамі...

Адным словам—паны пракуроры Пашыча не паскупіліся!

Тут гожа адзначыць, што ў Беларусі ўжо ў XVI сталецьці—паводле Літоўскага статуту—вялікі князь прысягаў нікога не караць за завочную абразу „вялічаства“.

### Парляманцкі крызіс у Ягіпце.

Толькі—што сабраўшыся пасьля новых выбараў парлямант дэманстратыўна выбраў сваім старшынёй былага прэм'ера Заглюля-пашу, старага павадыра ягіпецкіх незалежнікаў—нацыяналістаў, які пасьля расправы англійскага ўраду з Ягіптам за забойства англійскага камісара — прымушаны быў выйсьці ў адстаўку.

Больш угадовы габінэт Зівара-пашы з гэтае прычыны падаўся ў адстаўку.

Кароль адстаўкі ня прыняў. Тады Зівар-паша распусьціў парлямант.

Гэткім чынам толькі-што выбраны парлямант у „незалежным“ Ягіпце пражыў толькі 10 гадзін... і пахаваны толькі за тое, што выбраў найбольш паважанага ўсім народам 75-летняга свайга павадыра і барацьбіта—за старшыню...

### Паражэньне вагабітаў.

Хатняя вайна ў Арабіі ня спыняецца. Як паведамляюць з Джэдды, гэджаскія войскі пабілі вагабітаў, якія дагэтуль мелі вялікія пасьпехі ў вайне і скінулі з трону пастаўленага Англіяй караля ў Гэджасе.

Англія з цынічным спрытам (як заўсёды!), памагаючы пачарзе то аднэй, то другой старане, аслабляе сілы абедзьвюх, а ўрэшце—даб'ецца ізноў даўнейшай фактычнай улады ў „незалежнай“ Арабіі.

### Паўстаньне курдаў.

Весткі аб паўстаньні курдаў вельмі супярэчныя.

Паводле адных, — паўстаньне амаль ня здушана дарэшты; паводле іншых—турэцкі ўрад рыхтуе аж 3 корпусы новых войск проціў вялікай небясьпекі, пагражаючай усё больш дзяржаве. На граніцу Курдыстану мае быць выслана да 75.000 войска.

Карэспандэнт аднэй амэрыканскай газэты піша, што гэты крок турэцкага ўраду моцна занепакоіў Англію... Англійскія „сфэры“, якія, як казалі, самы ў значнай меры выклікалі гэтае паўстаньне і далі паўстанцам—праз Пэрсію—аружжа, цяпер спалохаліся: — Бо-ж канцэнтрацыя гэткай арміі на граніцы—пад самым спорным Мосульскім округам — як раз у часе, калі Ліга народаў будзе вырашаць спорную справу, дый некарыснага рашэньня якой Турцыя зусім ня зьбіраецца спаўняць, — яшчэ больш абвастрыць канфлікт між Турцыяй і Англіяй. Канфлікт гэты можа вельмі дорага каштаваць Англіі, бо Турцыя вельмі спадзяецца на падтрыманьне радавага ўраду, які заўсёды мае нейкія разрахункі з Англіяй.

Што датычыць Францыі, дык яе зычлівасьць да Турцыі—коштам Англіі — ведама добра... — І толькі што Францыя дазволіла турэцкім войскам прайсьці праз сірыйскую тэрыторыю, якая, адабрана ў Турцыі, і цяпер лічыцца пад „мандатам“ (папросту — пад уладай) Францыі.

Але Турцыя ведае, што Францыя цяпер моцна заінтэрэсавана ў падтрыманьні з боку Англіі ў сваіх эўрапэйскіх справах (проціняМецкай „бясьпечнасьці“ і інш.), дык можа лёгка „ўступіць у Турцыі“... Дзеля таго турэцкі ўрад выслаў у Парыж свайго найлепшага дыплёмата Фэтті-бея, каб умацаваць франка-турэцкую прыязнь... Вось як спрытна хоча выкарыстаць турэцкі ўрад тую „сьвіньню“, якую падлажыла Турцыі Англія. Заместа клопату Турцыі, а, можа, і побач з ім паўстаньне курдаў наробіць мо' яшчэ больш клопату Англіі.

## З Сойму.

### Конкордат у Сойме

У Соймавай Камісіі вялася гарачая барацьба між праціўнікамі і прыхільнікамі праекту Конкордату. Барацьба гэтая перашла цяпер на пленум (агульнае сабраньне) Сойму.

Найболш трафную крытыку конкордату з агульна-канстытуцыйнага і дэмакратычнага боку далі прадстаўнікі партыяў P. P. S. і „Wyzwolenie“ п.п. Гапіньскі (Мінчук) і Путэк. Абодвы клюбы запрапанавалі адкінуць праект.

Прапазіцыя P. P. S. кажа вось што: „Сойм сьцьвярджае, што конкордат стварае—у супярэчнасьці з канстытуцыяй прывілейнае палажэньне для каталіцкай царкоўнай іерархіі, а перад усім для япіскапату, дый не дае польскай дзяржаве належнай гарантыі проці магчымых надужыцьцяў кліру. Дзеля таго Сойм адкідае прапанаваны тэкст конкордату“.

Але сам клюб P.P.S. ня верыць у магчымасьць прыняцьця сваей рэзалюцыі і дзеля таго адразу прыгатаваў і друкуе разам— „на выпадак“ рад папраўак. .

### Бюджэт у камісіі.

Разгляд бюджэту ў камісіі падыходзіць да канца і мае быць закончаны з канцом сакавіка. Аднак, з прычыны сьвята Вялікадня, разгляд бюджэту ў Сойме пачнецца толькі пасьля вялікоднага перарыву—ад 26 красавіка.

## ХРОНІКА.

**Сьвяткаваньне сёмых угодкаў абвяшчэньня незалежнасьці Беларусі.** З прычыны становішча ўлады, сьвяткаваньне сёлета, як і летась, адбылося дужа скромна, абмяжаваўшыся закрытым паседжаньнем Беларускага Нацыянальнага Камітэту.

Прамоўцы рабілі агляд дасягжэньняў беларускага руху за мінуўшы год.

Атрыманы рад прывітаньняў ад беларускае замежнае эміграцыі, якія і былі прачытаны на паседжаньні.

**Абшарніцкая этыка.** Рэдакцыі абшарніцкага „Słowa“ мала было зрабіць ілжывы данос, быццам ... сьвята Скарыны і ўгодкі абвяшчэньня незалежнасьці Бел. Нар. Рэспублікі спраўляюцца па загаду з Менску! Абшарніцкі орган напярэдадні Скарынінскага юбілею пазволіў сабе надрукаваць баламутную вестку, што так-званая „Тымчасовая Беларуская Рада“ Паўлюкевіча і Валэйшы пастанавіла „адлажыць“ сьвяткаваньне нашага вялікага юбілею.

Ведама, для польскага грамадзянства, якое мала ведае наагул аб беларускіх справах, такая заметка магла паслужыць дастатачнай падставай паверыць, быццам сьвята запраўды адложана,—хаця ані Беларускае Навуковае Т-ва, ладзіўшае сьвяткаваньне, ані наагул беларускае грамадзянства ня мае нічога супольнага з Паўлюкевічамі і Валэйшамі, ды на іхнюю „пастастанову аб адкладзе юбілею ніхто і ўвагі не зьвярнуў.

Старшыня Беларускага Навуковага Т-ва ў тойжа дзень паслаў ў Рэдакцыю „Słowa“ адпаведнае высьненьне справы. Вось-жа Рэдакцыя надрукаваць-то яго надрукавала, ды толькі... сярод абвестак—пасьля абвесткі аб гарэлцы фірмы Бачэвскага!..

Быў час, калі „Słowo“ пачало завадзіць у польскай журналістыцы ў Вільні добрыя звычаі. На жаль, гэты час хутка мінуўся, і Рэдакцыя абшарніцкай газэты этычна апусьцілася акурат да роўня этыкі Обста...

**Юбілейнае выданьне аб Скарыне.** Якраз у дзень 25 марца выйшла ў сьвет кніжка аб Скарыне: **„Доктар Францішак Скарына—першы беларускі друкар 1525—1925“**. Напісаў Ад. Станкевіч. Друкована коштам Беларускага Навуковага Т-ва ў Вільні.

Кніжка невялічкага фармату, мае 56 стр., з рысункамі. Адбіта, як на папулярнае выданьне, на добрай паперы і ў прыгожай вокладцы з рысункам у 2-х колярах, узятым з загалоўнага ліста Бібліі Скарыны (з пражскага выданьня 1517 г.).

**„Расейска-крыўскі (беларускі) слоўнік“ Ва Ластоўскага** выйшаў з друку ў Коўні.

Кніжка, на пагляд, дужа паважная: хоць невялікага фармату, ды мае 832 стр. Аб зьмесьце яе падамо ў адным з бліжэйшых нумароў нашае газэты.

**Новы паштовы тарыф.** Ад 15-га сакавік ўведзена новая аплата паштовых пісем. На звычайнае пісьмо, як і раней было, марка за 15 грош., на заказное—45 грош., на экспрэс—95 грош.

## З жыцьця Горадні.

### Беларускі працэс „72“.

20-га красавіка 1925 г. Горадзенскім Акружным Судом будзе разглядацца справа беларусаў і літвіноў у ліку „72“, з якіх 42 сідзяць у вастрозе ў Горадні, а 30 на свабодзе.

Абвінавачываюць іх паводле арт. 102 К. К. за імкненьне да адарваньня Заходняй Беларусі ад Польшчы і стварэньня Беларускай Рэспублікі.

З боку абвінавачаньня выклікана 49 сьведкаў, а з боку абвінавачаных большасьць сьведкаў судом адкінута, і прыдзецца абвінавачаным бараніцца самім бяз сьведкаў.

Сьведкам абвінавачаньня выступае Эдвард Ленкевіч, які ўславіўся на беластоцкім беларускім працэсе „45“. Таксама выступае вядомы сышчык з Горадні, Язэп Ліс, і далей усе сьведкі—сышчыкі і паліцыя.

---

16-га сакавіка 1925 г. а 5 гадз. раніцы памёр у бальніцы ў Горадні беларускі вучыцель Юры Мілінец, родам з вёскі Плюскалаўцы, Вяліка-Берастаўецкае гміны.

Радзіўся Мілінец у 1891 г. у 1919 г. ён скончыў беларускія курсы ў Вільні і шмат палажыў працы для школьніцтва ў Горадзеншчыне.

Беларускай школы адкрыць яму не ўдалося і прышлося ў 1922 г. паступіць у польскую школу ў вёсцы Дубна, Горадзенскага пав.

Увесь час ён толькі і думаў, каб, як хутчэй, стацца вучыцелем у беларускай школе, але ў сьнежні 1924 г. захварэў і зьлёг у бальніцу ў Горадні, а 16-га сакавіка 1925 г. памёр, не дачакаўшы сваей роднай школы.

Няхай яму будзе лёгкая зямелька.

Заўсёды словы нябошчыка Мілінца былі: „О, як дрэнна, што я ляжу хворы, але нічога: хутка выздаравею! Сёньня ўжо можна па закону адчыняць беларускія школы, і так хочацца быць у сваей роднай школе.

Пахавалі Мілінца ў яго роднай вёсцы.

**Альфа.**

## З жыцьця работнікау.

Як наказуе „Słowo“, прамыслоўцы ў беластоцкім районе стараюцца ўрэзаць і без таго галодную плату работнікам. Першым распачала кампанію ў гэтым кірунку акцыйнае таварыства пад фірмай С. Г. Цытрон у Супрасьлі, якое, пускаючы ў ход сваю фабрыку, запрапанавала работнікам плату на 10% меншую. Работнікі на такі рабунак іх, ведама, не згадзіліся і папрасілі пасьведчаньня, каб атрымаць дапамогу з фундушу для безработных.

Але тут якраз і пачынаецца самае агіднае ў гэтай справе. Дырэкцыя фабрыкі пасьведчаньні ім выдаць — выдала, але зрабіла ў іх прыпіску, што роботнікі астаюцца бяз працы толькі затым, што самі адмаўляюцца працаваць. І вось—на падставе гэтакіх прыпісак урадовыя „апякуны“ работнікаў адмовіліся даваць ім устаноўленую законам дапамогу.

Гэтак на „прымусовы пост“, як выражаецца „Słowo“, аказаліся засуджанымі каля 400 работнікаў.

Выходзіць, што „opieka społeczna“ ў Польшчы апякуецца не работнікамі, а фабрыкантамі, ды стараецца голадам заганяць працоўны народ да працы ў фабрыках—за поўдарма!

### Ня плацяць грошы.

Далёка ўжо вядома збанкрутаваная фірма „Будкрэс, Бернацкі і Рудніцкі“. Работнікі, якія працавалі, дык страцілі ўжо ўсякую надзею атрымаць ад гэтай фірмы заробленыя крывавым мазалём грошы, а зароблены яны яшчэ ў 1924 годзе, XI—XII месяцах, калі пуд жыта каштаваў 2 злот. Вот і папрабуй, братка работнік, неарганізавана адабраць у час тое, што зарабіў! Можа, падумаеце, што сязелі ўжо, рукі злажыўшы, і чакалі, пакуль выплацяць? Дык не. Стараліся, прасілі. Прасілі ўсіх: старшых рабочых, тэхнікаў, інжынераў, падрадчыка, гміну, старосту, палкоўніка, нават Міністра Працы і апекі, Давудства Корпусу № III, дый яшчэ некуды,—ўсяго ня спомніш. І што-ж? Памаглі? Як кашаль у хваробе! Сколькі каштавала ўся гэтая царамонія, а карысьці нябачна. Стварылі нейкую Цывільна-Вайсковую камісію, якая езьдзе, разглядае, пацяшае рабочых: от — першага,—5,—10—12, 15 і гэтак без канца. А мы сабіраемся—і бягом за камісіяй. Яна ў аўтамабілі, а мы на сваіх рысаках. Так з Маладэчна да Галянова—5 вёрст і стуль назад,—бо пакуль мы дабяжым, дык каміся конча сваю працу. А мы гэтак прабегалі ўжо многа дзён, бо-ж зводзілі нас ня раз за 4 месяцы, ужо аж абрыдало. — А значная частка з нас сядзіць бяз хлеба і ня мае жаднага выхаду.

Што-ж рабіць, — куды кінуцца? Па моему, браты, адказ адзін: згуртавацца ўсім у клясавы саюз будаўляных работнікаў. Выбірайце Управу, людзей сьмелых і разумных, і ўжо тады, калі будзе такі Саюз, дык дарога для барацьбы за свой зароблены грош—будзе бяз ухабаў—і простая. А без арганізацыі тысяча рабочых—нуль! — Дык ня траціма часу, браткі: арганізуймося ў будаўляны саюз! **Рабочы з Галянова.**

## Карэспандэнцыі.

### Мітынг у Пінску.

„Пан з панам б'ецца, а у мужыка лоб трашчыць“.

У нядзелю, 1-га гэтага сакавіка, Пінск меў цікавае і нават бясплатнае прадстаўленьне — прамову аж двух паслоў з Сойму: правіцоўца і лявіцоўца.

Веча распачаў пасол Янкоўскі (нарадовец, з правіцы), а гадзіне 1-ай на пляцу каля касьцёла, стаўшы на развалінах муроў. Ёсьць ведама, адразу сабраў каля сябе ўсіх тых, што гулялі, выйшаўшы з касьцёла. Аб чым ён не гаварыў толькі! Вылічаў усе заслугі сваей партыі, што зрабіла на дабро Польшчы, ганіў лявіцоўцаў і нацыянальныя меншасьці (асабліва жыдоў), што нібы развальваюць Польшчу. Дасталося і паслом беларускім, што нібы робяць пераварот на „Крэсах“ і хочуць зрабіць Беларусь з „Крэсаў“, гдзе была, ёсьць і будзе Польшча, а Беларусі няма і ня будзе, бо ня можа быць дзяржавы, гдзе няма каменнага вугальля, ані газы, ані солі. Далей заклікаў усіх каталікоў, каб прылучыліся да барацьбы з усімі тымі „выўратоўцамі“—агітатарамі, якіх ёсьць шмат у Польшчы (аж 6.000).

Гаварыў з гадзіну і з такім запалам, што аж пена яму на губах парабілася, і толькі рэха адбівалася паміж муроў: „będzie! nie będzie“. А ў канцы сваей прамовы запрапанаваў рэзалюцыю, у якой, між іншым, цамагаўся ад ураду, каб забараніў паслом Сойму рабіць справаздаўчыя вечы, а паліцыі даў права паслоў арыштоўваць.

Галасоў колькі крыкнула: „Добра!“. Усе маўчалі. А адзін адазваўся: „Прэч!“.

І пакуль пасол Янкоўскі на заканчэньне прапанаваў купляць у яго польскія календары і брашуркі, гэны сьмяльчак узьлез на мур побач з ім і хацеў пачаць прамову. Але гдзе там? Янкоўскі, відаць, баяўся, каб гэны агітатар не папсаваў яго прамовы, бо пачаў на ўсё горла крычаць: „Panowie! Proszę go zabrać stąd! Nie dać mu mówić!“. Паўстаў галас, сьвіст. Пані і баязьлівыя пачалі ўцякаць, бо думалі, што бяз бойкі не абыйдзецца, ды й каменьняў і цэглаў шмат валялася каля муроў, (а гэта, як ведама, ужо выпрабованае аружжа!). Але баяцца было нечага, бо і паліцыі было шмат,—нават сам камандант п. Яцына.

Доўга трываў гоман, пакуль пасол Янкоўскі не пачуў з тлуму: „To też poseł!“ — „To pan poseł? A!... Przepraszam, nie poznałem pana!“. Сказаўшы гэта, п. Янкоўскі ўжо больш не крычаў, а, зьлезшы з муроў, пачаў прадаваць свае кніжкі.

Прамову хацеў мець пасол Дзенгелеўскі (П.П.С.), бо гэта быў ён. Але што ні адчыніць рот, каб пачаць гаварыць, крык, сьвіст не пазваляў больш прамовіць, як толькі: Szanowni...

Урэшце п. Дзенгелеўскі, хоць яго і перабівалі галасам і сьвістам, пачаў гаварыць аб тым, што яго дзівіць тое, як людзі могуць крычаць, ня ведаючы, што ён хоча сказаць. Ён належыць да работніцкай партыі, а яго прадмоўца да абшарнікаў, дзеля чаго хоча паказаць, што праца і прамова абшарніцкага пасла, а не яго, ёсьць шкодная дзеля Польшчы, бо п. Янкоўскі ўводзіць нялад, крычучы, што тут на „Крэсах“ толькі палякі, забываючы аб беларусах і ўкраінцах, з якімі абшарніцкая партыя ня лічыцца і ўціскае, забываючы, што палякоў тут на „Крэсах“ толькі 3 проц., што беларусы і ўкраінцы маюць права голасу, каб вызначыць „лёс“ свае зямлі. У ўціску нацыянальных меншасьцяў палякі займаюць мейсца маскалёў, якія іх-жа саміх ўціскалі больш, як сто гадоў.

Дзяржава дзяржыцца, казаў далей пасол, не на абшарніках, а на масах—на сялянах і работніках. А што датыча падаткаў, то найлепш запытацца ў Касе Скарбовай, хто заплаціў больш падаткаў. У Пінскім пав. сяляне заплацілі 100 проц. сваіх падаткаў (усё, што ад іх належалася), а абшарнікі заплацілі толькі 25 проц. сваіх падаткаў (толькі чацьвёртую часьць таго, што ад іх належыцца).

Эндэкі ў Сойме цяпер заварушыліся, раз'яжджаюць па „Крэсах“, стараюцца, каб дапасьці да поўнага карыта грошаў, што Польшча пазычыла ў Амэрыцы, і расхапіць на свае патрэбы—замест аддаць іх на адбудову краю, зьнішчанага вайною.

Успомніў п. Дзенгелеўскі і пра п. Пілсудскага, як правадыра дэмакратызму ў Польшчы. Але на яго окрык: „Niech żyje Piłsudski!“ адны крычалі: „niech żyje!“, другія: „Precz!“

Толькі а 4 гадзіне закончылася прамова пасла Дзенгелеўскага окрыкам: „Niech żyje rząd robotniczo-włościański“! **Прысутны.**

### Дзень за днём.

(З *Косаўскага павету*).

„Жудасна і балюча робіцца на душы, глянуўшы на вялізарную грамаду дзяцей, бадзяючыхся па вуліцы бяз усякіх заняткаў, ад ранку да вечара, дый дарослыя марнуюць маладыя гады і сілы бяз усякага заняцьця. Школы няма ніякай...“ (15 Бел. Дол.) чытаем на страніцах „Бел. Долі“. Горкая гэная праўда адносіцца ня толькі да вёскі Гэдзголы, але-ж амаль-што не да кожнае беларускае вёскі. Беларускія вёскі ў гэтым напрамку перажываюць вельмі, вельмі цяжкі мамэнт. Кіньце наўкола вокам, зірніце па ваколічным вёскам, і вы ўбачыце, што от ужо зараз будзець дзесяць гадоў, як нашыя вёскі бачылі школы. Праўда, па некатарым вёскам ёсьць школы, але ж школы польскія, дый то дзе-не-дзе. Калі да гэтага дадаць тую дурную рапутацыю, якою тут карыстаюцца польскія школы, дык вартасьць апошніх зьвядзецца амаль-што не на-ніц. Калі аднаго разу мне прышлося вясьці гутарку з сялянамі аб адкрыцьці польскае школы (гэта было да школьных законаў), дык мне адказалі: „Чым мець гэтакую школу, якую маюць суседнія вёскі, дык лепей зусім ня мець ніякае. Бо гэта ня вучэньне, але-ж збыткі. Там толькі і знаюць, што вучаць „Ojcze Nasz“ ца цалаваць у рукі дзяўчатам і г. д.

Трэ адзначыць, што цяга сярод сялян да школы ёсьць, ды нат нямалая. Есьць многа здарэньняў, калі сяляне на свой кошт адчыняюць прыватныя школы. Каліж узяць пад увагу знішчанасьць вайною сялянскіх гаспадарак, ды наогул беднасьць сялянства, калі думкі кожнага селяніна круцяцца наўкола: хаткі, зямліцы, коніка ды хлеба, дык гэныя выпадкі вельмі характэрны.

Яшчэ болей характэрны выпадкі з дамаганьнем сялян беларускае школы. Усім добра вядома, што значаць дэкляраціі кожнага, хто хоча вучыць сваё дзіця ў беларускай мове, ды к гэтаму школьны век дзіцяці. Але-ж, калі глядзіш на тыя высілкі народу, якія робіць ён у напрамку свае беларускае школы, дык можна сказаць напэўна, што беларускі народ бліскуча вытрымаець апошні экзамен, зроблены яму „гаспадарамі палажэньня“.

Даўно я ўжо бачыў многа - сажнёвыя хвасты чароду: за хлебам, за цукрам, за прапускамі, за білетамі,—ды ніколі ня бачыў, каб гэтак стаялі „за школаю“; а сёньня прышлося ўбачыць.

Прошлага торгу, 26 лютага, каля Косаўск. гміны стаіць цэлы хвост народу. Думаю, што гэта магло-бы быць? Не ў Расею ехаць пішуцца? —пытаюся ў бліжэйшага.

— Не, адказваець, — дэкляраціі на беларускую школу съведчым.

— Скуль?

— З Карошчы,—адказваець.

Але-ж паглядзеце, як да школьнае-беларускае справы адносяцца „нашыя гаспадары“ ў нізох! Як адносяцца ў вярхох—Тугуты, Грабскія, тое нам ужо вядома. Аднэй рукою даюць, а другою адбіраюць; ня лепей яно і тутака. Здарылася мне з таварышамі ісьці да Слоніма. Гэта кавалак дарогі, вярстоў 35. Падарозе прышлося начаваць у вёсцы Раховічах. Амаль што ня ў кожнай вёсцы нас сустрачала ватага дзяцей з рознага роду лаянкай. Гэтае здарэньне прымусіла нас пацікавіцца станам школ у ваколічных вёсках. Далі пару газэт „Беларус. Долі“ сялянам, пераначавалі, дый пашлі сваею дарогаю.

Назаўтрае 5 чалавек паліцыі на чале з шостым камэндантам Жыровіцкага пастарунку прыехалі ў вёску Рахавічы лавіць „бандытаў“, якія асьмеліліся цікавіцца станам польска-беларускіх школаў у ваколіцы ды раздаваць беларускія газэты.

Адабраўшы „Белар. Долю“ ад сялян, спісаўшы „пратакол“, з тым і паехалі.

Вось да чаго палохаець „гаспадарскія нізы“ адна цікавасьць аб школе, што цэлыя атрады высылаюцца лавіць тых, хто асьмеліўся заікнуцца аб беларускай школе там, дзе „ціш да гладзь“.

А два нумары „Белар. Долі“?!

Ці мо' і яны асьмеліліся пацікавіцца станам беларускіх і польскіх школаў?!

Падобнага роду выпадкі робяцца дзеля таго, каб, як найбольш, запалохаць і так запалоханых сялян, ды каб ніхто ня сьмеў нат заікнуцца аб беларускай школе.

Ды ўсё гэта дарэмна! **Мікола Мужычок.**

### „Закон зьверху, а работа знізу“.

(З *Нясьвіжскага пав.*).

У нашай вёсцы, Высокай Ліпе, Сноўскае гміны, у 1920 годзе была адчынена родная беларуская школа, але цераз год яна памерла—зачынілася проці волі сялян. Затужылі нашы Высока-Ліпаўцы, ды няма чаго рабіць. Паўстала ў нас школа польская. Некаторыя бацькі з год пасылалі сваіх дзетак за 3 вярсты—у Вялікую Ліпу, дзе нейкім цудам і шчасьцем утрымалася беларуская школа. Апіраючыся на закон Сойму 9.VII. 1924 г., нашы сяляне ізноў заварушыліся, сталі гаварыць аб роднай школе, ды, як усюды, нічога ня выйшла.

Цяпер, у 1925 г., калі апублікавалі загад аб новым спосабе ходаньня за бел. школу і выдан загад Міністра Ўнутраных Спраў 12/II 1925 г. ўсім гмінам без адкладна і бясплатна сцьвярджаць подпісы бацькоў на дэкляраціях, нашы жыхары зьявіліся ў гміну дзеля гэтай мэты. Войт гмінны Б. Чэчат (паўпанак з фальв. Камянка) наадрэз адмовіўся споўніць свой абавязак, сказаўшы пры гэтым: „Я сваіх дзяцей вучыць у гэтай школе ня буду, яна нікому непатрэбна“!.. „Выбачай, мой панок! Ты дзяцей сваіх ужо нідзе вучыць ня будзеш, іх у цябе й ня будзе. Толькі патрыарху Абрагаму на старасьць Бог даў дзіця, ды то быў цуд, а цяпер час цудоў прайшоў, дык мы ўсе гэта добра ведаем, а значыцца няма нічога разумнага ў гэтым адказе, але-ж у цябе, пане Базылю, могуць быць унукі і праўнукі—беларусы, ды не такія перакідчыкі, як ты, а шчырыя сыны сваей Бацькаўшчыны, каторыя не запытаюцца ў цябе, дзе ім вучыцца. Тыя мо' скажуць: „А каб нашаму дзеду—прадзеду ня было дабра й на тым сьвеце, што ён не хацеў роднае школы?“ Ды й трэба дбаць ня толькі аб сабе. „Уміраць зьбірайся, а жыта сей“. Ды мы запытаемся: „Каму-ж ты служыш?“ „Ня вам, вядома, бо ня вы мяне выбяралі, скажаш. Праўда, часта садзіцца скула, хоць яе і ня хочаш. Цябе назначылі сіламоц, проці нашай волі, але ўсё-ж такі цябе назначалі служыць за грошы Сноўскіх беларусаў, і ты павінен выпаўняць загады хоць тых, хто цябе пасадзіў у нас“...

„Але што тут гаварыць, казалі пакрыўджаныя сяляне, выходзячы з гміны, на што нам Міністар і Закон у Варшаве, калі ў нас ёсьць свой тут блізка: „Pan Bazyli Czeczot, wót gm. Snowskiej“.

Але яшчэ, апроч войта, некаму моцна засьмярдзеў беларускі дух. (Мы ведаем каму). Той спудзіўся ды заявіў паліцыі, што ў Высокай Ліпе йдзе школьная агітацыя. Паліцыя, як паліцыя — прыехала, зрабіла вобыск у паўнамоцніка і забрала шкодныя ўзоры дэкляраціяў, лічучы іх „праклямацыямі“.

„Што-ж рабіць, дзе падзецца нам беларусам! Не стае подпісу „B. Czeczot“ і 130 дзяцей — бяз школы. Вось і сьпяшайся!.. **Пакрыўджаны.**
**Высока-Ліпавец.**

## Паштовая скрынка.

Атрымана. Ад—Паўла Шавеля, Кірыла Родіука, рэд. „Курьер Полеся“. Т. Маркуша, Васіля Кірбюка, С. Мазурка, Антона Губіча, А. Бухавецкага, Юльяна Сянюты, Е. Каршуна, Яна Бурдукевіча, Канстантага Бакуновіча, Аляксандра Каганоўскага, Мікалая Навойчыка—**па 2 зл.**

Ад—М. Вашкеля—**3 зл.**

Ад—Андрэя Міхайлоўскага, Тамаша Дземідзюка, Пятра Альшэўскага, Язэпа Будрыка, Язэпа Рагача—**па 4 зл.**

Ад—Язэпа Орочко, Язэпа Саўтыча, А. Журко—**па 6 зл.**

Ад—Аляксандра Сеня, Г. Ляўковіча—**па 1 зл.**

Ад—Ежага Яроцкага—**10 зл.**

Ад—П. Гоцко—**8 зл.**

### На прэсавы фонд.

Сабраныя па ахвярадаўчаму лісту № 1 праз Яна Біруковіча—**16 зл.** Ад—„Беларускай Кватэры“—**6 зл.**



Рэдактар-Выдавец **Антон Пракапеня.**

Друкарня **Н. Левін і Сын,** Вільня, Нямецкая 22.